**ЗВЯЗДА**

27 лютага 1998 г. пятніца, № 44 (23395)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

## ПЫРСКІ ШАМПАНСКАГА...

**Следства, якое распачалі работнікі сталічнай міліцыі, мяркуючы па ўсім, будзе адным з гучных. Узбуджана крымінальная справа ў адносінах да былога адказнага работніка завода шампанскіх він.**

Па інфармацыі, якую ўдалося атрымаць рэдакцыі, гэты работнік падазраецца ў буйным крадзяжы. Па папярэдніх звестках, ён, уступіўшы ў змову з дырэктарам аднаго са сталічных сумесных прадпрыемстваў і шафёрам, выкраў у 1995-1996 гадах шляхам фальсіфікацыі дакументаў прадукцыі свайго завода на два мільёны долараў. Іншыя акалічнасці гэтай справы пакуль следствам «не рэкламуюцца»...

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА

**Як паведамілі БЕЛТА з прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 26 лютага 1998 года А. Р. Лукашэнка прыняў са справаздачай Генеральнага пракурора Бажэлку А. А.**

Бажэлка А. А. праінфармаваў кіраўніка дзяржавы аб праведзенай органамі пракуратуры ў гэтым годзе рабоце па ўмацаванню законнасці і правапарадку. Паведаміў аб ходзе расследавання крымінальных спраў, якія атрымалі шырокі грамадскі рэзананс. За два месяцы пракурорамі дадзена санкцыя на арышт 2600 асоб, якія ўчынілі злачынствы, адменена 1050 незаконных пастаноў аб адмове ў завядзенні крымінальных спраў, прад'яўлена ў суды ў інтарэсах дзяржавы больш як адна тысяча іскаў на агульную суму 41 млрд. рублёў.

Абмяркоўвалася пытанне аб неабходнасці ўдасканалення і зблıжэння крымінальна-працэсуальнага і крымінальна-выканаўчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

Кіраўнік дзяржавы запатрабаваў ад органаў пракуратуры ўзмацнення нагляду за следствам і аператыўна-вышуковай дзейнасцю ў органах унутраных спраў і Камітэце дзяржаўнай бяспекі, зрабіць больш жорсткай барацьбу з эканамічнай злачыннасцю і карупцыяй, парушэннямі заканадаўства, якія дапускаюцца з боку службовых асоб.

Прэзідэнт асабліва звярнуў увагу на неабходнасць паляпшаць работу з заявамі і скаргамі грамадзян, прынцыпова рэагаваць на парушэнні, што сустракаюцца ў ходзе яе з боку супрацоўнікаў дзяржаўных органаў.

**БЕЛТА.**

## СТАРШЫНЯ ВІЦЕБСКАГА АБЛВЫКАНКАМА ДАЛАЖЫЎ ПРЭЗІДЭНТУ БЕЛАРУСІ АБ РАЗВІЦЦІ РЭГІЁНА

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў старшыню Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Андрэйчанку і заслухаў яго справаздачу аб сацыяльна-эканамічным развіцці рэгіёна за 1997 год. Сустрэча адбылася 26 лютага ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. Такая практыка работы кіраўніка дзяржавы з кадрамі ўстанавілася ў нашай краіне на працягу апошніх двух гадоў.**

Уладзіміру Андрэйчанку было што далажыць прэзідэнту рэспублікі і членам урада. Па большасці паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця на Віцебшчыне дасягнута істотнае перавышэнне фактычных тэмпаў росту над прагнознымі значэннямі. Павялічылася вытворчасць прамысловай прадукцыі і тавараў народнага спажывання, узраслі рознічны тавараабарот, аб'ём знешняга гандлю і інвестыцыі, апераджальнымі тэмпамі ажыццяўляецца ўвод у эксплуатацыю жылых дамоў.

Што датычыць сельскай гаспадаркі, то ў гэтай галіне паказчык па валавой прадукцыі аказаўся ніжэйшым, чым меркавалася. Знізіліся вытворчасць бульбы, збор агародніны, скараціліся пасевы лёну. Некаторае павелічэнне вытворчасці дасягнута ў галіне жывёлагадоўлі, практычна ва ўсіх раёнах узрасла прадукцыйнасць дойнага статка. Валавы збор збожжавых і зернебабовых культур у 1997 годзе склаў 922 тысячы тон, і яго прырост да ўзроўню папярэдняга года дасягнуў 51 тысячу тон.

У цэлым рабоце старшыні Віцебскага аблвыканкама дадзена станоўчая ацэнка. Як было адзначана, у мінулым годзе ён паказаў сябе ўмелым кіраўніком. Аднак было ўказана і на наяўныя недахопы ў рабоце выканаўчага камітэта. Уладзіміру Андрэйчанку была абяцана падтрымка ў вырашэнні тых пытанняў, якія вобласці самой вырашыць не пад сілу.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## УРАД І БЕЛКААПСАЮЗ ПАДПІСАЛІ ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

**Савет Міністраў рэспублікі і Беларускі саюз спажывецкіх таварыстваў заключылі пагадненне аб узаемадзеянні на 1998 год. 26 лютага прэм'ер-міністр Сяргей Лінг і старшыня праўлення Белкаапсаюза Віктар Уладыка падпісалі дакумент, які прадугледжвае далейшае развіццё супрацоўніцтва ў галіне сацыяльна-эканамічнай палітыкі.**

Паводле слоў Сяргея Лінга, у мінулым годзе далёка не заўсёды работа спажывецкіх таварыстваў была здавальняючай, тым не менш пагадненне адыграла сваю станоўчую ролю.

Сёння перад Белкаапсаюзам пастаўлены новыя задачы. Аб'ёмы рознічнага тавараабароту павінны ўзрасці на 9 працэнтаў, а прыбатак у супастаўных цэнах плануецца давесці да 20 працэнтаў. Удзельная вага ўласных таварных рэсурсаў у структуры тавараабароту павінна дасягнуць 40 працэнтаў.

**БЕЛТА.**

## КАНЦЭРН «БЕЛРЭСУРСЫ» БЯРЭЦЦА ГАНДЛЯВАЦЬ ПА-НОВАМУ

Прэм'ер-міністр нашай краіны Сяргей Лінг і кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч 25 лютага наведалі канцэрн «Белрэсурсы».

Яны пагутарылі з кіраўнікамі канцэрна, азнаёміліся з выставачным комплексам, прадстаўленымі ўзорамі прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## ЯКОЙ БУДЗЕ ЎСЁ Ж ТАКІ ЗАЎТРА ВЁСКА?

**Нягледзячы на ўсе складанасці сённяшняй эканамічнай сітуацыі, ёсць галіны і сферы вытворчасці, дзе радавыя працаўнікі атрымліваюць прыстойную зарплату, дзе выразна прагладваецца станоўчая перспектыва развіцця. Але ў меншай ступені гэтае правіла «астраўных» поспехаў выяўляецца ў сельскай гаспадарцы, у АПК. Яшчэ ў меншай ступені — сярод непасрэдных вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі. Таму, пэўна, і рэзка пагаршаецца жыццё на вёсцы, таму і дэмаграфічная сітуацыя тут працягвае складвацца далёка не лепшым чынам.**

Занепакоенасць сучасным станам развіцця АПК, праблемамі, якія з дня на дзень трывожаць вясковага працаўніка, арганізатараў сельскагаспадарчай вытворчасці — таксама і прадмет пільнай, пастаяннай увагі айчынных парламентарыяў. Пацвярджэннем таму і семінар дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях адаптацыі аграпрамысловага комплексу краіны да рыначных умоў. Месцам правядзення быў абраны Нясвіжскі раён.

Калі мець на ўвазе пэўную яго эканамічную і сацыяльную стабільнасць, наяўнасць у раёне такой трывалай і дзеяздольнай гаспадаркі, як «Сноў», то выбар становіцца зразумелым. Праўда, удзельнікі семінара не абмежаваліся экскурсіяй у вядомы на ўсю краіну агракамбінат, дзе многія рэчы нават сваім знешнім выглядам пераконваюць: жыць і працаваць на вёсцы можна, грошы зарабляць — таксама. Перш-наперш дэпутаты, кіраўнікі Мінсельгасхарча наведаліся ў калгас-сераднячок, як падкрэсліў сёй-той з удзельнікаў семінара. Праўда, дзеля справядлівасці варта засведчыць: сельскагаспадарчае калектыўнае прадпрыемства «17 верасня» па большасці сваіх паказчыкаў — на пятым месцы сярод гаспадарак Нясвіжчыны. Вось і лічыце: стабільнае прадпрыемства стабільнага раёна. Значыць, у межах краіны калгас гэты знаходзіцца калі не ў першай сотні, то, мусіць, у другой-трэцяй дакладна. І ўсё ж гаспадарка не такая вядомая, як многія знакамітыя калектывы АПК. Таму, думаецца, і радавым чытачам, большасць з якіх пражываюць у калгасах з паказчыкамі і плёнам нашмат горшымі, будзе цікава даведацца, што хвалюе «сераднякоў».

Па-першае, пра абсягі гаспадаркі, якія пэўным чынам вызначаюць яе сацыяльна-эканамічныя памкненні і ў той альбо іншай ступені адлюстроўваюць агульную карціну вясковага жыцця. «17 верасня» ўключае 9 вёсак. На тэрыторыі гаспадаркі — 1140 двароў з насельніцтвам 2360 чалавек. З іх — 1446 члены СПК (сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства). Але працаздольных — 374. У гаспадарцы жыве 31 інвалід вайны. У 1997 годзе памерлі 64 чалавекі. Нарадзілася 11 немаўлят. «17 верасня» — буйное сельскагаспадарчае прадпрыемства малочна-мяснога накірунку з вырошчваннем цялушак і развітой вытворчасцю цукровых буракоў. За гаспадаркай замацавана 5472 гектары зямлі. Ворыва — 3789 га, сенажацяў — 1041. На тэрыторыі СКП функцыянуе кормапрадпрыемства, якое вырабляе 22 тысячы кармавых адзінак у год. У гаспадарцы 1250 кароў. Такія вось агульныя вытворчыя абсягі. Якія ж праблемы існуюць у гаспадарцы, каторая стабільна выплачвае няхай сабе і невялікую, мільён з хвосцікам, зарплату і ўтрымлівае немалую сацыяльную інфраструктуру?

Першае і ўжо, відаць, бясконцае пытанне — цэнаўпарадкаванне. Закупачная цана на малако — 4000 рублёў за 1 л першага гатунку. Хіба можна параўноўваць кошт 1 л малака з коштам аднаго курынага яйка? Дзеля параўнання: 1 л бензіну каштуе 8453 рублі. Што ўжо казаць пра іншае параўнанне: за адзін збожжаўборачны камбайн трэба аддаць да 2000 тон збожжа.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**



## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 26 ЛЮТАГА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 43500 | 44500 | 23900 | 24500 | 7100 | 7300 | 263-6080 |
| Белаграпрамбанк | 43300 | | 23700 | | 7100 | | 228-5716 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 32670.00 | | 17979.20 | | 5390.00 | | Курс на 27.02.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0700 | | 3.3407 | | 10000 BLR 1.3365 | | |
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 45450 | 45510 | 24990 | 25030 | 7508 | 7520 | |

** Каціруецца украінская грыўня.*

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## ФАТОГРАФЫ СУПРАЦЬ ЧАРНОБЫЛЯ



# КАВАЛЁЎКА



**У краіне ёсць дзесятак населеных пунктаў з назваю Кавалёўка. Але брэсцкі мікрараён прыцягнуў увагу не гэткаю ж назвай і не архітэктураю. Гэта звычайны спальны раён, збудаваны на балоце і пяску. Куды ні кінь вокам — бетон. Кавалёўка, і пра гэта ў Брэсце ведаюць многія, — прыстанішча для тысячы мігрантаў, чые дамы засталіся недзе далёка за рысаю немагчымасці пражывання, рэгіён чарнобыльскіх перасяленцаў. Але не толькі. Кавалёўка — сімвал змагання: ужо некалькі гадоў тут дзейнічае Асацыяцыя чарнобыльскіх мацярок, якія паўсталі на абарону сваіх сем'яў, мужоў, дзяцей. Ад каго ж бароняцца брэсцкія жанчыны? Часам — ад раўнадушша і чэрствасці грамадства. І ўвесь час — ад наступстваў катастрофы на атамнай станцыі.**

МОЖНА доўга ўглядацца ў безліч вокнаў шматпавярховых дамоў і не ўбачыць за цёмнымі шыбамі ніводнай прыкметнай рысы бяды. Але варта толькі пераступіць парог кватэры, дзе пасяліліся колішнія нараўлянцы, брагінцы, жыхары Веткі, Хойнікаў, Чачэрска, — і шмат невядомага адкрыецца вачам.

З Чэрыкаўскага раёна з пяццю дзецьмі перасялілася ў Кавалёўку Ніна Арцёменка. Двое дзяцей — пажыццёва хворыя. Асабліва цяжка з самым меншым — Паўлікам, у яго — энцэфалія. Як жа змагаецца з бядою адзінокая маці? «Хіба я спраўлюся без медыцынскай і маральнай дапамогі, якую аказвае нам наша асацыяцыя? — пытаецца гаспадыня кватэры, — Дзякуючы ёй мы не адчуваем сябе забытымі, непатрэбнымі».

Іван і Валянціна па прозвішчу Гуляй цэлых пяць гадоў пражылі ў зоне высокай ступені забруджвання. Там жа нарадзіўся іхні сын Міколка. Хто ведае, магчыма гэтая акалічнасць стала прычынаю слабага развіцця хлопчыка. Яму ўжо 9 гадоў, але ён яшчэ ніводнага разу не пераступаў школьны парог. Цяпер сям'я Гуляяў папоўнілася дачушкаю. Маці не працуе. Бацька, лічы, беспрацоўны. У кватэры — галеча. Увесь занятак Міколкі — цэлы дзень пазіраць праз акно на вуліцу, а самая вялікая радасць — добра пад'есці. Толькі бывае гэта вельмі рэдка. Асабліва шчаслівым Міколка робіцца, калі ў іх кватэры з'яўляецца вялікая скрыня з цацкамі, цукеркамі і рознымі ласункамі. Гэта — апека з боку асацыяцыі. Без яе ніколі б не зведаць хлопчыку гэткай радасці.

Раней за іншых у Кавалёўцы адчулі неабходнасць аб'яднання супраць нягод менавіта маці-перасяленкі, у чыіх сем'ях пасялілася трывога за будучыню дзяцей альбо ўжо пануе бяда. Не ўлады, не бацькі-ліквідатары, а менавіта маці. Пераезд у новыя кватэры не спыніў шлейф чарнобыльскіх праблем. Адаптацыя да гарадскіх умоў для многіх сталася непераадольнаю пакутаю. 30 працэнтаў сем'яў ужо распалася. Шмат п'янства. Узрасла колькасць захворванняў. Зарэгістравана 17 дарослых і 5 анкалагічна хворых дзяцей. Не чакаючы дапамогі ад дзяржавы, можа, і не верачы ўжо ў яе, маці стварылі асацыяцыю і назвалі «У дапамогу дзецям Чарнобыля».

— Мэтаю арганізацыі ад самага пачатку была ідэя стварэння рэабілітацыйнага цэнтра, — дзеліцца думкамі старшыня праўлення асацыяцыі Наталля Хвяшчук. — Мы вымушаны самі займацца стабілізацыяй здароўя сваіх дзяцей — праз медыцынскія мерапрыемствы, праз аздараўленне. Адно з такіх мерапрыемстваў — папярэджанне анкалагічных і іншых асабліва небяспечных захворванняў, выяўленне іх на ранняй стадыі.

Зразумела, акрамя медыцынскіх, грамадская арганізацыя ўзяла на сябе вырашэнне і матэрыяльных праблем, і сацыяльных. Якраз тых, якія павінна браць на сябе дзяржава. Але ўжо пяць гадоў бліскучая ідэя стварэння рэабілітацыйнага цэнтра ў Кавалёўцы застаецца нікім непачутай, толькі мараю чарнабыльскіх мацярок, а іхнія дзеці вымушаны месяцамі чакаць у клініках горада чаргі на апарат УЗІ.

Зноў я прыгадваю сустрэчы з многімі насельнікамі кватэр у Кавалёўцы. Дужа цяжкімі былі ўражанні.

Ля ложка паміраючай ад рака маці адзіны яе сын. Хлопчыку 10 гадоў. Нікога ў свеце, акрамя маці, у яго няма. Вельмі позна жанчына даведалася пра сваю хваробу. Працэс незваротны...

Вось перасяленка з Веткі. Ва ўзросце 35 гадоў у яе перасталі рухацца ногі. Дыягназ — рассеяны склероз. Хвароба выклікана ўздзеяннем радыяцыі...

Вось зноў гаротная нараўлянская сям'я: маці — хворая, бацька — беспрацоўны. У кватэры бедна, няўтульна...

Але ўсе яны — непакінутыя, незабытыя, у іх ёсць апора — мацярынская садружнасць.

Кавалёўка... Гэтая назва ўжо трывала ўвайшла ў лексікон многіх брэстаўчан сімвалам трагедыі. Сапраўды, гэта сховішча ад бяды, ад непапраўнага мінулага. Але аднойчы Кавалёўка стала яшчэ адной цытадэллю Брэста, цытадэллю чарнобыльскай Беларусі.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**

*Брэст — Мінск.*



*Барыс БЕРАЗОЎСКІ:*

## «Віноўнікам раз'яднанасці цяперашняй СНД перш за ўсё з'яўляецца Расія»

***З вядомым расійскім прадпрымальнікам, экс-намеснікам сакратара Савета бяспекі Расіі Барысам Беразоўскім, які нядаўна наведаў Беларусь, гутарыць карэспандэнт Інтэрфакса***

**— Барыс Абрамавіч! Вы з'яўляецеся адным з найбольш уплывовых у Расіі прадпрымальнікаў, уладальнікам шэрагу буйных камерцыйных структур. З вашага пункту гледжання, наколькі спрыяльны ў Беларусі бізнес-клімат і як у цэлым вы ацэньваеце ход эканамічных пераўтварэнняў у рэспубліцы?**

— Для мяне сітуацыя ў брацкай Беларусі заўсёды была цікавай. Мне не ўсё роўна, што там адбываецца. З размоў з дзелавымі людзьмі, з сустрэч з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам я зразумеў, што ў гэтай рэспубліцы можна працаваць і расійскім, і беларускім бізнесменам. Трэба ўлічваць асаблівасці падыходу прэзідэнта А. Лукашэнкі да эканамічных рэформаў у гэтай краіне. Прызнаюся, на гэтую тэму мы вельмі доўга гаварылі з Аляксандрам Рыгоравічам у ходзе сустрэчы, якая адбылася зусім нядаўна ў Мінску.

Дзяржавы былога СССР мяняюць адзін тып эканамічнай сістэмы на іншы: цэнтралізаваная планавая эканоміка замяняецца рыначнай, цэнтралізавана вызначаемыя цэны замяняюцца свабоднымі, стопрацэнтна цэнтралізаваная дзяржаўная ўласнасць замяняецца прыватнай і змешанай.

Такая трансфармацыя непазбежна звязана з каласальнымі ўзрушэннямі ў грамадстве. Значная частка людзей аказалася ў замяшанні і часта не разумее: навошта трэба было мяняць увогуле беднае ў сярэднім, аднак небезнадзейнае жыццё на нешта, я сказаў бы, эфемернае, але, як абяцаюць, лепшае?

Многія людзі лічылі нармальнай сітуацыю, калі ў іх дома быў кавалак каўбасы і бутэлька гарэлкі, меўся хоць нейкі дах над галавой, няхай дрэнны, але дзіцячы сад, «бясплатныя» адукацыя і медыцынскае абслугоўванне...

Перамены ў жыцці любога чалавека заўсёды ўспрымаюцца насцярожана, нават у тым выпадку, калі чалавек жыве вельмі дрэнна. Калі я быў зусім маленькім, не пераставаў здзіўляцца: чаму з Афрыкі не едуць людзі, якія галадаюць і жывуць у дапатопных хацінах. Потым зразумеў, што ім проста страшна мяняць стыль жыцця і рызыкаваць стратай нават таго мінімуму, які яны маюць.

Стымулам пераўтварэнняў у савецкім грамадстве з'явілася ў многім разуменне таго, што чым далей мы будзем знаходзіцца ў нежыццяздольнай у дадзеных гістарычных умовах цэнтралізаванай планавай эканоміцы, тым хутчэй можам зваліцца ў бездань эканамічнага краху і галечы. Людзі бачаць, што побач існуюць краіны, якія маюць больш прагрэсіўную эканамічную сістэму і якія не тэарэтычна, а на практыцы даказалі, што іх шлях больш эфектыўны і надзейны.

Тая частка грамадства, якая гэта разумее, па сутнасці ініцыіруе трансфармацыю савецкай эканамічнай мадэлі. Але большая частка грамадства не разумее неабходнасці рэформы і таму трансфармацыя адбываецца даволі балюча. Яна можа прыняць і крайнюю форму — форму грамадзянскай вайны. Гэта тая мяжа, якую, зразумела, нельга пераходзіць.

Расія, на мой погляд, у мінулым годзе амаль падышла да гэтага рубяжа з-за цэлага шэрагу абставін. Гэта адбылося ў выніку вельмі інтэнсіўнага развіцця рэформаў. Я не прымяняў бы ў гэтай сітуацыі тэрмін «шокавая тэрапія». Але тое, што імклівая трансфармацыя вельмі небяспечная, Расія адчула на сабе.

Што датычыцца Беларусі, то яе лідэр А. Лукашэнка, добра разумеючы гэтую праблему, павёў краіну іншым шляхам. Усвядоміўшы неабходнасць эканамічных трансфармацый, ён ажыццяўляе рэформы больш узважана, з большым улікам сацыяльнага фактара, чым у Расіі. А. Лукашэнка імкнецца не паўтараць памылак расійскіх эканамічных рэформаў, старанна ўзважваючы ўсе «за» і «супраць», перш чым зрабіць чарговы крок у эканамічных пераўтварэннях.

Між тым, і ў гэтай мадэлі маецца свая небяспека. Рэформы зацягваюцца па часе, народ стамляецца чакаць іх вынікаў. Калі пераўтварэнні працяглы перыяд не прыносяць у якой-небудзь сферы канкрэтных станоўчых вынікаў, узнікае небяспека рэстаўрацыі былога рэжыму. Уменне выбраць сярэдняе паміж названымі двума шляхамі — вельмі высокае майстэрства.

На мой погляд, Расіі ўсё-такі ўдалося гэта зрабіць, хаця гэты эксперымент адбываўся ва ўмовах каласальнай рызыкі. А. Лукашэнка не мае намеру рызыкаваць, як расійскія кіраўнікі, таму рэформы ў Беларусі будуць адбывацца запаволена. Ён рызыкуе па-свойму, але ён прэзідэнт і мае права, ацэньваючы абодва варыянты, выбіраць аптымальны з яго пункту гледжання. Ён узяў на сябе гэту адказнасць.

Не думаю, што выбраны Беларуссю шлях не прывядзе да поспеху. Поспех абавязкова будзе. Тым больш што Расія, значна прасунуўшыся ў рыначных рэформах, знаходзіцца з Беларуссю ў адзіным Саюзе. Удзельная вага Расіі ў ім значна перавышае вагу Беларусі, і гэта таксама з'яўляецца вельмі важным фактарам, які дапаможа Беларусі.

**— Вы цёпла адзываецеся аб беларуска-расійскім Саюзе. Аднак, з'яўляючыся гаспадаром значнага пакета акцый ГРТ, здабылі імідж праціўніка такой інтэграцыі. Ваша тэлекампанія працяглы час фарміравала негатыўнае ўяўленне аб беларускім кіраўніку, які, як вядома, з'яўляецца ініцыятарам беларуска-расійскага Саюза дзяржаў...**

— Я — перакананы прыхільнік збліжэння нашых брацкіх народаў. Мая пазіцыя па гэтаму пытанню заўсёды была абсалютна паслядоўнай і датычыцца яна не толькі Саюза з Беларуссю, але і ўсёй постсавецкай прасторы. Віноўнікам раз'яднанасці цяперашняга СНД перш за ўсё з'яўляецца Расія, якая была занята вырашэннем унутраных вельмі цяжкіх праблем, і не знайшла магчымасці сканцэнтравацца ў неабходнай ступені на вырашэнні праблем, звязаных з захаваннем цесных адносінаў паміж рэспублікамі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*ПЫТАЛЬНІК*

## Пенсію за асаблівыя заслугі яшчэ давядзецца пачакаць...

***У ліпені мінулага года ваша газета надрукавала матэрыял, у якім ішла гаворка пра пенсіі за асаблівыя заслугі. Гаварылася, што пералік асоб, якія могуць прэтэндаваць на такія пенсіі, плануецца перагледзець. Мяне гэта таксама турбуе і я хацеў бы, каб «Звязда» паведаміла, ці былі тыя змяненні ў пераліку. Я ўзнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дружбы народаў, трыма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, трыма залатымі медалямі і дыпломам Гонару ВДНГ СССР. Двойчы выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (7-га і 10-га склікання), членам ЦК КПБ, дэлегатам XXIV з'езда КПСС і XXVIII з'езда КПБ, VI з'езда настаўнікаў БССР і IX з'езда работнікаў кааперацыі СССР. Калі ўзначальваў саўгас «Ведрыч» Рэчыцкага рёана, ён у 1977 годзе таксама быў узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі. Саўгас неаднаразова ўзнагароджваўся ВДНГ СССР, ганаровымі сцягамі, у ім праводзіліся рэспубліканскія і абласныя семінары.***

***Але, мусіць, я працаваў дрэнна, бо як споўнілася мне ў верасні 1997 года 60 гадоў, ні з саўгаса «Ведрыч», ні з Рэчыцкага райвыканкама — ні гу-гу...***

**Станіслаў ПЕТАЧЭНКА,** *г. Мінск.*

Сапраўды, летась «Звязда» надрукавала інтэрв'ю з загадчыкам сакратарыята Камісіі па ўстанаўленню пенсій за асаблівыя заслугі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Іванам Гаўрылавым. У ім, у прыватнасці, гаварылася, што заслужаных людзей у нашай краіне непараўнальна больш той колькасці, якая на той момант атрымлівалі пенсію за асаблівыя заслугі згодна з дзеючым палажэннем аб пенсіях за асаблівыя заслугі. Таму, як паведамлялася, камісія мела намер выйсці на Адміністрацыю Прэзідэнта з уласнымі прапановамі аб пераглядзе пераліку асоб, якія маюць права на такія пенсіі. Так, планавалася ўключыць у новы пералік усіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета, пачынаючы з 1-га склікання (калі яшчэ хто застаўся ў жывых) і заканчваючы цяперашнімі парламентарыямі, якія ажыццяўлялі дэпутацкія паўнамоцтвы не меней двух скліканняў. Пэўныя змены планаваліся ў дачыненні да шматдзетных маці. Меркаваўся да змянення пералік і колькасць патрэбных для прысваення пенсій за асаблівыя заслугі баявых і працоўных узнагарод. Навaўвядзенні павінны былі датычаць не толькі кіраўнікоў, але і простых рабочых. Час прайшоў і што змянілася?

— 28 студзеня гэтага года Пастановай Савета Міністраў № 121 з пераліку асоб, якія планаваліся да ўключэння ў спіс тых, хто мог прэтэндаваць на прызначэнне пенсіі за асаблівыя заслугі, былі выключаны дэутаты Вярхоўнага Савета. Гаворка ў гэтым сэнсе не будзе весціся пра гэтых людзей і надалей — паведаміла галоўны спецыяліст упраўлення сацыяльнай аховы Мінгарвыканкама Таццяна Уласенка. — Прапановы аб уключэнні ў новы пералік асоб, які ўзнагароджаны чатырма ордэнамі, у тым ліку і ордэнам Леніна (зараз дзеючае палажэнне прадугледжвае ў якасці падстаў для прызначэння пенсіі за асаблівыя заслугі наяўнасць для мужчын пяці і больш ордэнаў за баявыя і працоўныя заслугі. — **Рэд.**), напрыклад, як у вашага чытача, зараз знаходзяцца ў Адміністрацыі Прэзідэнта. Якіх-небудзь канчатковых рашэнняў на гэты конт мы пакуль не атрымлівалі.

Што датычыцца чытача, раім яму перыядычна звяртацца за інфармацыяй у наша ўпраўленне. Няхай тэлефануе па нумары 221-55-26.

